


ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**




# FABLES




# 2










ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ**
**КОЗЫРАЎ**

## Што адбывалася дагэтуль:

УЗБРОЕННАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ ВІХУРАЙ НЯСЕЦЦА ПА ФЕРМЕ ФЭЙБЛТАЎНА, І РУЖА ЧЫРВАНЬ ДАЛУЧЫЛАСЯ ДА РЭВАЛЮЦЫЯНЕРАЎ. БЕЛАСНЕЖКА, УСЁ ЯШЧЭ ЛАЯЛЬНАЯ ДА СТАРЫХ УРАДАЎ, ПРАВОДЗІЦЬ НОЧ І НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ У БЯГАХ РАЗАМ З ЛІСАМ РЭЙНАРДАМ. ШАРХАН, НЕНАЕДНЫ БЕНГАЛЬСКІ ТЫГР, ЯКІ СЫШОЎ СА СТАРОНАК КНІГІДЖУНГЛЯЎ, ВЫСАЧЫЎ ІХ НА ПЕРАСЕЧАНАЙ МЯСЦОВАСЦІ, ХУТКА ПАЗБАВІЎСЯ АД ЛІСА І ПОТЫМ СПРАБАВАЎ ЗАБІЦЬ БЕЛУ. АЛЕ СКОНЧЫЛАСЯ ГЭТА ТЫМ, ШТО ЯНА ЗАБІЛА ШАРХАНА І СЛЕДАМ ЗНАЙШЛА ЗНІКЛАГА ВЕЛУНДА КАВАЛЯ, ЗНЯВОЛЕНАГА Ў АДДАЛЕНАЙ ПЯЧОРЫ ЗА ЛОГАМ ВЯЛІКІХ СПЯЧЫХ. АДРАЗУ ПРЫБЫВАЕ ГРУПА РЭВАЛЮЦЫЯНЕРАЎ, УЗНАЧАЛЕНАЯ НЕ КІМ ІНШЫМ, ЯК РУЖАЙ ЧЫРВАНЬ.




# Камандзір двухкрылых

ЧАЦВЁРТАЯ ЧАСТКА ЖЫВЁЛЬНАЙ ФЕРМЫ


СЦЭНАР: **БІЛ УІЛІНГХЭМ**
АЛОВАК: **МАРК БУКІНГЕМ**
ТУШ: **СЦІВ ЛЭЙАЛОА**
ЛЭТЭРЫНГ: **ТОД КЛЯЙН**
КОЛЕР І СЕПАРЫРАВАННЕ: **ДАНІЭЛЬ ВОЗО**
ВОКЛАДКА: **ДЖЭЙМС ДЖЫН**
АС. РЭДАКТАРА: **МАРЫЯ ХОХНЭР**
РЭДАКТАР: **ШЭЛІ БОНД**
ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**
АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ**






У НАС ЗАРАЗ НЯМА **ЧАСУ** СУДЗІЦЬ БЕЛУ. І МЫ НЯ МОЖАМ ПАКІНУЦЬ ЯЕ НА ВОЛІ, КАБ ЯНА ПРАЦЯГВАЛА СЕЯЦЬ **ЗАКАЛОТУ** ПАМІЖ ЛАЯЛІСЦКІХ ПАЗАДКАЎ. УГАНІ ЁЙ КУЛЮ Ў **ГАЛАВУ**, КАБ МЫ ЗМАГЛІ ПРАЦЯГВАЦЬ НАШУ ДОБРУЮ СПРАВУ.
ЦІ КАЛІ Ў ЦЯБЕ НЕ ХАПАЕ **ДУХУ**, АДЫДЗІ, І Я ГЭТА ЗРАБЛЮ.
ЗАБУДЗЬСЯ, ДЗЯЎЧЫНКА. У НАС **ДАМОВА**.
ТАК. І ЯНА ЎСЁ ЯШЧЭ ІСНУЕ. АЛЕ ЗЛАЦІ МАЕ РАЦЫЮ НАКОНТ ТАГО, ШТО Ў НАС ЗАРАЗ **НЯМА** НА ГЭТА ЧАСУ.
ЗГОДНА. НАМ ЯШЧЭ ТРЭБА ЗАМАЦАВАЦЬ НАША КІРАВАННЕ НА ФЕРМЕ, І БОЛЬШ ТАГО ПРАВЕСЦІ ЗАХОП ГАРАДСКОГА ФЭЙБЛТАЎНА.
МЫ ПАСАДЗІМ БЕЛАСНЕЖКУ НА ЛАНЦУГ, ТУТ, РАЗАМ З ВЕЛУНДАМ КАВАЛЁМ, І ЯНА ЗМОЖА ДАПАМАГЧЫ ЯМУ СКОНЧЫЦЬ **ПЕРАРОБКУ** ЗБРОІ.
ЦУДОЎНЫ КАМПРАМІС, ТАВАРЫШЧДАН. МЫ ПАСАДЗІМ ЯЕ ПРАЦАВАЦЬ НА КАРЫСЦЬ РЭВАЛЮЦЫІ. КАЛІ ЯНА ПАПРАЦУЕ ДОБРА, МЫ **ЎЛІЧЫМ** ГЭТА ПАЗНЕЙ, КАЛІ ПРЫЙДЗЕ ЧАС СУДЗІЦЬ ЯЕ.


З ГЭТЫМ УСЕ ЗГОДНЫ?
TANG!
ПЕРАКАНАЙСЯ, ШТО ЗАБІЎ **ГЛЫБОКА.** КАЛІ ЯНА ЗНОЎ СБЯЖЫЦЬ, **ПАКОЦЯЦЦА** ГАЛОВЫ.
TANG!
РУЖА, ЯК ТЫ МОЖАШ БЫЦЬ ЗАЛУЧАНА Ў ГЭТЫМ?
ЯК Я МАГУ **НЯ БЫЦЬ?** БЕДЫ Ў КАЗАЧНЫХ САПРАЎДНЫЯ, І **ДАЎНО ПАТРАБУЮЦЬ** КАМПЕНСАЦЫІ.
«РЭВАЛЮЦЫЮ БЫЛО НЕ ПАЗБЕГНУЦЬ, БЕЛА. І ХОЦЬ РАЗ Я ПЛАНУЮ БЫЦЬ НА **ПРАВІЛЬНЫМ** БАКУ ТАГО, ШТО АДБЫВАЕЦЦА».
«ХАДЗЕМЦЕ, НАРОД. НАМ ТРЭБА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДА ПАЎДЗЁННАГА СХОДУ ПРАЛЕТАРЫЯТУ».



ГАДЗІНАМІ ПАЗНЕЙ
ПАГНАЛІ!
МОЖНА Я ПАВЯДУ?
НЕ.
МОЖНА Я ПАВЯДУ?
Я СКАЗАЎ НЕ!
МОЖНА Я ПАВЯДУ?
ЗАБІ ЗЯПУ!
ЧАМУ Я НЕ МАГУ КІРАВАЦЬ МАШЫНАЙ?
ТАМУ ШТО ЁЙ КІРУЮ Я. ТАМУ ШТО ТЫ МАЛПА. ТАМУ ШТО Я ТАК СКАЗАЎ.
ВАРЫЯНТ ВЫБІРАЙ САМ.
АЛЕ Я ДОБРЫ КІРОЎЦА, СПЫТАЙЦЕ КОЖНАГА.
МОЖА ХТО-НЕБУДЗЬ ЗАБІЦЬ ЯМУ ЗЯПУ?
ДАЗВАЛЯЮ ПАСПРАБАВАЦЬ.
ПРЫСТРЭЛЬ ЯГО, КАЛІ ЖАДАЕШ.
ГЭТА ЎЖО ПАЧАЛОСЯ ЯК НА РЭДКАСЦЬ ЛАЙНОВАЯ ВЫРАТАВАЛЬНАЯ АПЕРАЦЫЯ.
ОЛБАНІ


ДОБРАЙ РАНІЦЫ. ЯК СПАЛАСЯ?
Я ЛІЧУ, ШТО НЯДРЭННА.
ЯК ДОЎГА Я БЫЛА Ў АДКЛЮЧЦЫ?
ДЗЕСЬЦІ ШЭСЦЬ ГАДЗІН, АЛЕ Я НЯ ЎПЭЎНЕНЫ. ТУТ МНЕ НЕ ДАЗВАЛЯЮЦЬ МЕЦЬ **ГАДЗІННІК**.
ГАТОЎ ПАВЕДАВАМІЦЬ МНЕ, ШТО З ТАБОЙ ЗДАРЫЛАСЯ, ВЕЛУНД?
АСАБЛІВА І **ПАВЕДАМЛЯЦЬ** НЯМА ЧАГО. АДНОЙЧЫ НОЧЧУ Я ПАЙШОЎ СПАЦЬ У СВОЙ ЛОЖАК У ФЕРМЕРСКАЙ ХАТЦЫ І ПРАЧНУЎСЯ ТУТ, **ЗАКАВАНЫМ** І ПРЫМУШАНЫМ ПЕРАРАБЛЯЦЬ ГЭТУ ЗБРОЮ.
ПРЫМУШАНЫМ **ЯКІМ ЧЫНАМ**?
НЕЙКАЕ МАГІЧНАЕ **ЗАКЛЯЦЦЕ** Ў ГЭТЫМ ЛАНЦУГУ ВАКОЛ МАЁЙ ШЧЫКАЛАТКІ.
ЯНО НЯ ТОЛЬКІ НЕ ДАЗВАЛЯЕ МНЕ ПАСПРАБАВАЦЬ ЗБЕГЧЫ, АЛЕ І **ПРЫМУШАЕ** ВЫКОНВАЦЬ ТУЮ ПРАЦУ, ЯКАЯ ІМ ПАТРЭБНА.



А ШТО АДБУДЗЕЦЦА, КАЛІ Ў ІХ БУДЗЕ ДАСТАТКОВА ЗБРОІ, ПЕРАРОБЛЕНАЙ ТАКІМ ЧЫНАМ, КАБ ТРУСЫ І ГУСАКІ, І КУРАНЯТЫ МАГЛІ З ЯЕ **СТРАЛЯЦЬ**? ЯНЫ ЎВАРВУЦЦА Ў РОДНЫЯ ЗЕМЛІ?
Я ТАКСАМА ТАК ЛІЧУ.
НАД ЧЫМ ТЫ ЗАРАЗ ПРАЦУЕШ?
РАБЛЮ КЛЮЧ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЬ ЦЯБЕ АД КАЙДАНАЎ.
ЯК? Я ДУМАЛА...
Я НЕ МАГУ РАБІЦЬ НІЧОГА, КАБ ВЫЗВАЛІЦЬ **СЯБЕ**, АЛЕ ЗАБАРОНА НЕ РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА НА **ЦЯБЕ**.
ГЭТЫЯ СВІРНЫЯ ЧАРАЎНІКІ-**АМАТАРЫ** НЕ ПАДУМАЛІ ПРА ТОЕ, ШТО ТРЭБА ПАДРЫХТАВАЦЬ ЗАКЛІНАННЕ НАЛЕЖНЫМ ЧЫНАМ.
ГЭТА ПАВІННА СПРАЦАВАЦЦА.


KLIK
TCLINK
ЦУДОЎНА.
А ЗАРАЗ ЯК МЫ ВЫПУСЦІМ **ЦЯБЕ**?
ПРАБАЧ, АЛЕ Я НЕ МАГУ ЗРАБІЦЬ НІЧОГА, НІ СЛОВАМ НІ СПРАВАЙ, КАБ ДАПАМАГЧЫ ВЫЗВАЛІЦЬ МЯНЕ.
НУ ДОБРА, АЛЕ ХІБА ТЫ ПАВІНЕН ПЕРАШКАДЖАЦЬ МНЕ СПРАБАВАЦЬ?
НЯ ДУМАЮ.
ДЛЯ ПАЧАТКУ ДОБРА. ЦІ РАЗВЕЕЦЦА ГЭТА ЗАКЛЯЦЦЕ, КАЛІ Я ВЫЗВАЛЮ ЦЯБЕ АД **ТВАІХ** КАЙДАНАЎ?
ПРАБАЧ, АЛЕ Я НЕ МАГУ ЗРАБІЦЬ НІЧОГА, НІ СЛОВАМ НІ СПРАВАЙ, КАБ ДАПАМАГЧЫ ВЫЗВАЛІЦЬ МЯНЕ.
ЛАЙНО.
ДОБРА, ТРЫМАЙСЯ ВЕЛУНД.
У ЦЯБЕ Ў ГЭТАЙ **БЯЗЛАДЗІЦЫ** ПАВІННА БЫЦЬ **ШТОСЬЦІ**, ШТО Я ЗМАГУ СКАРЫСТАЦЬ, КАБ АДКРЫЦЬ ЗАМОК ЦІ **ЗНЯЦЬ** З ЦЯБЕ ГЭТУ ПРАКЛЯТУЮ ШТУКУ.


Я ПРАВІСЕЎ НА ХВАСЦЕ ШАРХАНА ТАК ДОЎГА, КОЛЬКІ ЗМОГ, ШТО НАСАМРЭЧ ЗУСІМ НЕ БЫЛО **ДОЎГА**.
АЛЕ Я ЯГО НЕ ЦІКАВІЎ. ЯК ТОЛЬКІ ЁН **СТРОС** МЯНЕ, ЁН ЗНОЎ АДПРАВІЎСЯ ЗА БЕЛАСНЕЖКАЙ.
У ЯГО АТРЫМА-ЛАСЯ? ЯНА МЁРТВАЯ?
Я НЯ ВЕДАЮ, ВЫСАКАРОДНЫ КА-РОЛЬ. МОЙ ДЗЁННЫ **ЗАПАС** ХРАБРАСЦІ ЎЖО БЫЎ СТРАЧАНЫ, КАЛІ Я СПРАБАВАЎ АДЦЯГНУЦЬ ХАНА. ПАСЛЯ ГЭТА-ГА, КАЛІ ТЫГР ПАЙШОЎ У **АДНЫМ** КІРУНКУ, Я ВЫРАШЫЎ, ШТО РАЗУМ-НЫМ БУДЗЕ ПАЙСЦІ Ў ІНШЫМ.
КОЛЬКІ НАШЫХ ЗАСТАЮЦЦА ЛАЯЛЬНЫМІ?
НЯШМАТ. ГРУПА БРАТКІ І ГРУПА ДЖУНГЛЯЎ НА ІНШЫМ БОКУ, РАЗАМ З НЕКАТОРЫМІ ІНШЫМІ. АЛЕ БОЛЬШАСЦЬ УСЁ ЯШЧЭ СТАІЦЬ НА **РО-СТАНЯХ**, ЧАКАЮЧЫ ЯК УСЁ ПАВЕРНЕЦЦА.
ПАСПРАБУЙ ЗНОЎ ЗНАЙСЦІ БЕЛАС-НЕЖКУ. КАЛІ ЯНА **ЖЫВАЯ**, МЫ БУДЗЕМ ПРАЦЯГВАЦЬ СПРАБАВАЦЬ. КАЛІ НЕ, ЛЕПШАЕ, ШТО МЫ МОЖАМ ПАСПРАБА-ВАЦЬ ЗРАБІЦЬ – ГЭТА ЗБЕГЧЫ З ГЭТЫХ ЗЕМЛЯЎ ПАДЧАС ІХ ДЗЁННАЙ ЗБОРНІ.
**ПЛАН** НЯ ВЕЛЬМІ, АЛЕ КАЛІ ГЭТА ЎСЁ, ШТО МЫ МОЖАМ…


АДЧЫНІЦЕ, У ІМЯ РЭВАЛЮЦЫІ!
ШТО ТАБЕ ПАТРЭБНА, БРАТКА ТРУС? НАВОШТА ЎВЕСЬ ГЭТЫ ГРУКАТ У МАЕ ДЗВЕРЫ?
ДОБРАЙ РАНІЦЫ, БІЛ. ВЯЛІКАЕ РЭВАЛЮЦЫЙНАЕ КІРАВАННЕ ЗАПРАШАЕ ЦЯБЕ ПАЎДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У ВЯЛІКІМ СХОДЗЕ Ў ЦЭНТРЫ ВЁСКІ АПОЎДНІ.
НАВЕДВАННЕ АБАВЯЗКОВАЕ.
КАЗЛЫ ГРАФ
АДЧЫНЯЙ, ХЛОПЧЫК-З-ПАЛЬЧЫК, У ІМЯ РЭВАЛЮЦЫІ!
МАБЫЦЬ ЁН ЗНОЎ ДОМА Ў СПАДАРЫНІ ЦАЛЁВАЧКІ. Я ЧУЎ ЯНЫ ЗНОЎ СУСТРАКАЮЦЦА.
ЗНАЧЫЦЬ, БЕЛАСНЕЖКА НЕ ТАКАЯ БЕЗАБАРОННАЯ, ЯКОЙ ЗДАВАЛАСЯ.
ДОБРА, ДЛЯ ЯЕ.


ОЙ.
ТЫ СПРАБУЕШ ПАЗБАВІЦЬ МЯНЕ НАГІ?
ПРАБАЧ, Я НІКОЛІ НЯ ЎМЕЛА ДОБРА КАРЫСТАЦЦА ПРЫЛАДАМІ.
МНЕ Б ДАПАМАГЛО, КАЛІ Б ГЭТА ЗАКЛЯЦЦЕ НЕ ПРЫМУШАЛА ЦЯБЕ ДРЫЖАЦЬ.
ЗАКЛЯЦЦЕ ТУТ **НЕ ПРЫЧЫМ**, ГЭТА ПРОСТАЕ ПАЧУЦЦЁ САМАЗАХАВАННЯ.
ДАЙ МНЕ **ПЕРАДЫХНУЦЬ**. Я СПРАБУЮ, ЯК МАГУ.
АКЕЙ... ГЭТА НЯ ДЗЕЙНІЧАЕ. Я ЗДАЮСЯ. ЧАМУ Б МНЕ НЕ ПАШУКАЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ, ЧЫМ Я МАГУ **АДАМКНУЦЬ** ЗАМОК?
ПРАБАЧ, АЛЕ Я НЕ МАГУ...


АГА. Я ВЕДАЮ. ЗАБІ ЗЯПУ.
ЧАМУ Б ТАБЕ НЕ ПАСПРАБАВАЦЬ ГЭТЫ **КЛЮЧ**, ЯКІ ЛЯЖЫЦЬ ТУТ.
А?
ЦІ ТЫ ЎЖО **СПРАБАВАЛА**, БЕЛАСНЕЖНЫ ТРУС?
РЭЙНАРД, А Я **МЕРКАВАЛА**, КАЛІ Ж ТЫ З'ЯВІШСЯ.
ГЭТЫ КЛЮЧ ВЕЛУНД ЗРАБІЎ, КАБ АДАМКНУЦЬ **МАЕ** КАЙДАНЫ. ЁН НЯ ДЗЕЙНИЧАЕ НА ЯГО.
ЧАМУ НЕ? **ЗАМОК** ВЫГЛЯДАЕ ТАКІМ ЖА.
ХМММ... НУ... НЯ ВЕДАЮ.
ЛІЧЫШ, ГЭТА МОЖА СПРАЦАВАЦЬ НА ТВАІХ КАЙДАНАХ ТАКСАМА?


ПРАБАЧ, АЛЕ Я НЕ МАГУ ЗРАБІЦЬ НІЧОГА, НІ СЛОВАМ НІ СПРАВАЙ, КАБ ДАПАМАГЧЫ ВЫЗВАЛІЦЬ МЯНЕ.
БОЖА МОЙ, ТЫ ХІТРЫ ВЫРАДАК, ТЫ ЗНАЙШОЎ **ШЧЫЛІНУ**, ЯКАЯ ДАЗВОЛІЛА ТАБЕ ЗРАБІЦЬ СВОЙ КЛЮЧ ДЛЯ ВЫЗВАЛЕННЯ.
ПРАБАЧ, АЛЕ...
**КАЛІ ЛАСКА,** ПЕРАСТАНЬ КАЗАЦЬ ГЭТА.
ЛІЧЫ ЎСЕ МАЕ ПЫТАННІ **РЫТАРЫЧНЫМІ**, ПАКУЛЬ Я НЯ ВЫЦЯГНУ ЦЯБЕ З ГЭТЫХ ПРАКЛЯТЫХ...
SNAP
ВОСЬ І ЯНО.
ГЭТА ПАЗАЙМАЛА Ў ЦЯБЕ ДАВОЛІ ШМАТ ЧАСУ, ДУРНАЯ ЖАНЧЫНА.
ТЫ САПРАЎДЫ ЗБІРАЛАСЯ ПАСПРАБАВАЦЬ КОЖНУЮ ПРЫЛАДУ, ЯКАЯ ТУТ ЁСЦЬ, ПАКУЛЬ ДА ЦЯБЕ Б **ДАЙШЛО** ПАСПРАБАВАЦЬ КЛЮЧ, ЯКІ Я ПАКІНУЎ ЛЯЖАЦЬ НЕПАСРЭДНА ПЕРАД ТВАІМ **НОСАМ**?


ТАБЕ ДАЗВОЛЕНЫ **АДЗІН** ГРУБЫЙ КАМЕНТАРЫЙ, ПА ПРЫЧЫНЕ ЗРАЗУМЕЛАЙ ЗЛОСЦІ АД ТАКОГА ДОЎГАГА ЗНЯВОЛЕННЯ. АЛЕ **НЕ ЗАХАПЛЯЙСЯ**.
ДЗЕТКІ, ГЭТА САПРАЎДЫ НЯ ЛЕПШЫ ЧАС ДЛЯ СПРЭЧАК.
ЛІС МАЕ РАЦЫЮ. НАМ ТРЭБА РУХАЦЦА ХУТКА, ПЕРШ ЧЫМ ГЭТА ДУРНАЯ ЗВЯРЫНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ НЕ ПАЙШЛА ДАЛЕЙ.
У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ПЛАН, ПРЫНЦЭСА?
МАГЧЫМА.
ВЕЛУНД, ЗАРАЗ ТЫ МОЖАШ АДКАЗВАЦЬ НА ПЫТАННІ?
ТАК.
ТАДЫ МНЕ ПАТРЭБНА ВЕДАЦЬ ТРЫ РЭЧЫ. ПЕРШАЯ, КОЛЬКІ ПРАЦОЎНАЙ ЗБРОІ ЗАРАЗ ЁСЦЬ У ГЭТЫХ ІДЫЁТАЎ?
ШМАТ. У КОЖНАГА КАЗАЧНАГА, ЯКІ МОЖА ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ НЕ МАДЫФІКАВАНУЮ ЗБРОЮ, ЁСЦЬ АДНА.
А ШТО НАКОНТ ПРАСУНУТАЙ СУВЯЗІ? ШТО ЁСЦЬ У ІХ І ШТО ЁСЦЬ У ЦЯБЕ ТУТ ДЛЯ ПРАЦЫ?


У ІХ АСАБЛІВА НІЧОГА НЯМА. ЯК І ЎСЕ САЛДАТЫ-АМАТАРЫ НА ПРАЦЯГУ ЎСЁЙ ГІСТОРЫІ, ЯНЫ ЗРАБІЛІ ПАМЫЛКУ – ПАСТАВІЎШЫ НАБЫЦЦЁ ЗБРОІ **ПЕРШ** ЗА СУВЯЗЬ.
У НАС ТУТ ЁСЦЬ УСЕ ВІДЫ ЭЛЕКТРОНІКІ, І МНЕ БЫЛА ДАДЗЕНА ІНСТРУКЦЫЯ БРАЦЦА ЗА ІХ МАДЫФІКАЦЫЮ ТОЛЬКІ **ПАСЛЯ** ТАГО, ЯК Я СКОНЧУ ПРАЦУ НАД УСЁЙ ЗБРОЯЙ. ШТО ТАБЕ ПАТРЭБНА?
МЫ ДА ГЭТАГА ПА-ДЫДЗЕМ. НАСТУП-НАЕ, РАСКАЖЫ МНЕ ПРА ВЯЛІКІХ СПЯЧЫХ? ЧАМУ ЯНЫ **СПЯЦЬ** ТАК ДОЎГА?
ТЫ ПЫТАЕШ МЯНЕ, ЯКІЯ ЗАКЛЯЦЦІ ПРЫМУШАЮЦЬ ІХ **ЗАСТАВАЦЦА** СПЯЧЫМІ, ЦІ ЧАМУ ГЭТА Ў НАШЫХ ІНТАРЭСАХ ТРЫМАЦЬ ТАКІХ НЯЎЯЎНА НЕМАГЧЫМЫХ ІСТОТ СПЯЧЫМІ І ДАЛЕЙ АД ДАПЫТЛІВЫХ ВАЧЭЙ?
«НАСАМРЭЧ НІ ТОЕ, НІ ІНШАЕ. Я ПЫТАЮ, ШТО ПАТРЭБНА, КАБ ІХ РАЗБУДЗІЦЬ».
«РЭЙНАРД, МНЕ ТРЭБА, КАБ ТЫ ЯК МАГА ХУТЧЭЙ ПРАКРАЎСЯ НАЗАД У ВЁСКУ І РАЗНЕС СЛОВА, ШТО ЎСІМ КАЗАЧНЫМ, УСЁ ЯШЧЭ ЛАЯЛЬНЫМ ДА НАС, НА КАРЫСЦЬ ІМ ЖА, ЛЕПШ ВЫБРАЦЦА З ФЕРМЫ ДА ВЯЛІКАГА ДЗЁННАГА СХОДУ».


СЯБРЫ! ВОЛЬНЫЯ КАЗАЧНЫЯ ІСТОТЫ!
НАРЭШЦЕ ПРЫЙШОЎ ЧАС! НЕЎЗАБАВЕ... ЯК ТОЛЬКІ МЫ ЗМОЖАМ АРГАНІЗАВАЦЬ ТРАНСПАРТАВАННЕ... МЫ БУДЗЕМ РУХАЦЦА Ў КІРУНКУ ФЭЙБЛТАЎНА Ў НЬЮ-ЁРКУ. КАЛІ МЫ БУДЗЕМ ЯГО КАНТРАЛЯВАЦЬ, МЫ ПАЧНЕМ АДКРЫТУЮ ПАДРЫХТОЎКУ ДЛЯ ЎВАРВАННЯ І ВЫЗВАЛЕННЯ НАШЫХ РОДНЫХ ЗЕМЛЯЎ!
ЧАС **НАДЫШОЎ**! НАШ ЛЁС ЧАКАЕ ТОЛЬКІ ТЫХ З НАС, ХТО ПАЦЯГНЕЦЦА І **ЗАПАТРАБУЕ** ЯГО!
ГЭЙ, ШТО ГЭТА?
ХТОСЬЦІ ІДЗЕ!
«ГЭТА БЕЛАСНЕЖКА!»
ТОЛЬКІ СКАЖЫ, ДАН, І Я **ЎЛАЖУ** ЯЕ АДНЫМ СТРЭЛАМ.
НЕ **СТРАЛЯЦЬ**, БОГАМ ПРАШУ! У ЯЕ БЕЛЫ ФЛАГ!


УСІМ КІНУЦЬ ЗБРОЮ І РАЗЫСЦІСЯ!
ВАША, ЯК ВЫ ЯЕ НАЗЫВАЕЦЕ, **РЭВАЛЮЦЫЯ** СКОНЧАНА!
ШТО?
ЧАМУ ГЭТА МЫ ПАВІННЫ?
АЛЕ Ў НАС СУПРАЦЬ ЦЯБЕ АБСАЛЮТНАЯ **ПЕРАВАГА**!
ВЫ ТУПАЯ БУЗА! Я БЕЛАСНЕЖКА! Я КІРУЮ ФЭЙБЛТАЎНАМ, І НІХТО **НІКОЛІ** НЯ МАЕ НАДА МНОЮ АБСАЛЮТНАЙ ПЕРАВАГІ!
**ЗНІЧТОЖЫЦЬ** СВІРАН!


БОЖА МОЙ!
НАС **АДПЯРДОЛІЛІ**!
КАЛІ СА МНОЙ ШТО-НЕБУДЗЬ ЗДАРЫЦЦА, СПАЛІ ФЕРМУ, УСІХ ЯЕ ЖЫХАРОЎ І КОЖНАГА, ХТО ПАСПРАБУЕ **ЎЦЯЧЫ**.
ШТО НАМ **РАБІЦЬ**?
А ШТО МЫ **МОЖАМ**? МАЯ СЯСТРА НАС **АБГУЛЯЛА**!
ВЫЦЯГВАЙЦЕ БРАТОЎ. **ЗАРАЗ.**
ЯНЫ ЎЖО Ў ДАРОЗЕ!


А ЗАРАЗ КАЖУ АПОШНІ РАЗ, КІНЬЦЕ ЗБРОЮ І РАЗЫЙДЗІЦЕСЯ!
УСЁ СКОНЧАНА! ВЫ ПРАЙГРАЛІ! ДЗІЦЕ ДАДОМУ!


ТЫ НЯ МОЖАШ ЕХАЦЬ ХУТЧЭЙ? СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА І СПАДАРЫНЯ ЧЫРВАНЬ МОГУЦЬ БЫЦЬ У ЖУДАСНАЙ БЯДЗЕ!
НАМ НАОГУЛ НЯ ВАРТА БЫЛО СПЫНЯЦЦА ТАМ!
АКРАМЯ ТАГО, ШТО НАМ ТРЭБА БЫЛО ДАВЕДАЦЦА, КУДЫ ЕХАЦЬ, ПАСЛЯ ТАГО ЯК ТЫ, ПАСТУШОК, ЗАВЕЗ НАС НЕЗРАЗУМЕЛА КУДЫ.
ГЭТА НЕ МАЯ ВІНА. Я ГАРАДСКІ ЖЫХАР. ХТО МОЖА ЎСАЧЫЦЬ ЗА ЎСІМІ ГЭТЫМІ АДДАЛЕНЫМІ СЕЛЬСКІМІ ДАРОГАМІ?
І ЛЕПШ ЯМУ НЕ АБАСРАЦЬ МАЮ НОВУЮ СКУРАНУЮ АБІЎКУ.
СЯДЗІ СПАКОЙНА І САЧЫ ЗА СВАЁЙ МАЛПАЙ. ТЫ ВЫМУШАЕШ МЯНЕ НЕРВАВАЦЦА.
ПАБАЧЦЕ! ТАМ ШТОСЬЦІ ГАРЫЦЬ!
ПРЫВАТНАЯ ДАРОГА
ГЭТЫЯ ПРАКЛЯТЫЯ ТРЫ БРАТЫ ПРАЧНУЛІСЯ!
ШТО АДБЫВАЕЦЦА?


ОХ, ГЛЯДЗІЦЕ, **КАВАЛЕРЫЯ**, НАРЭШЦЕ, ПРЫБЫЛА.
ШТО ТУТ ЗДАРЫЛАСЯ? ВЫ Ў ПАРАДКУ?
МЫ... ЭЭЭ... ПРЫЙШЛІ ВАС **РАТАВАЦЬ**.
РАСЛАБЦЕСЯ, ХЛОПЧЫКІ, У НАС БЫЛІ НЕКАТОРЫЯ ПРАБЛЕМЫ, АЛЕ ЎСЁ ЎЖО СКОНЧАНА.
МАЯ СЯСТРА І АСТАТНІЯ БІНДОСЫ АРЫШТАВАНЫ.
АГА, ЗДАЕЦЦА, Я ЗНОЎ БЫЛА ДРЭННАЙ ДЗЯЎЧЫНАЙ.
АДНАК, БУДЗЬЦЕ АСЦЯРОЖНЫМІ, АДЗІН З ЗАВАДАТАРАЎ ГЭТАГА ФІЯСКА ВЫСЛІЗНУЎ, СКАРЫСТАЎШЫСЯ СУМЯТНЁЙ.
ЗЛАТАВАЛОСКА.
ЯНА ЎСЁ ЯШЧЭ **МОЖА** БЫЦЬ ДЗЕСЬЦІ ТУТ.


У АПОШНІ РАЗ, КАЛІ Я ЯЕ БАЧЫЛА, ЯНА БЫЛА ЎЗБРОЕНА.
ДАКУЧЛІВАЯ КУРВІСКА.
POW!
БЕЛА!
Далей:
Снежкапад!